Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **10 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

**Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА — у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду — 1 зл. 35 гр.; за 3 месяцы — 75 грош; за 1 месяц — 30 грош.

**№ 30 (82)** | **Вільня, 16-га лістапада 1935 г.** | **Год 3-ці.**

## Калі спадзяешся вайны, дык гатуйся да яе.

З дасюлешняга ходу італьянска-абісінскай вайны відаць, што Муссоліні і яго дарадчыкі добра прырыхтаваліся да вайны ўтакім маладаступным краю, якім зьяўляецца Абісінія з яе высокімі няпрыступнымі горамі ды гарачым клімагам.

У першыя дні вайны шмат каму здавалася, што італьянскае войска, трапіўшы ў зусім новыя для яго абставіны, ў найлепшым прыпадку будзе паволі пасоўвацца наперад, што партызанцкія напады абісінцаў разам з гарачым клімагам ды адсутнасьцяй вады хутка спаралізуюць усялякую дзейнасьць італьянцаў. Аднак у сапраўднасьці аказалася, што абісінцы зусім не такія адважныя ваякі, як аб іх думалі, і што культура і тэхніка даюць магчымасьць чалавеку перамагчы найгразьнейшыя перашкоды прыроды. Вось-жа, як падаюць газэты, італьянцы на ўсіх трох фронтах—паўночным, паўдзённым і заходнім—пасоўваюцца наперад, займаючы ўсё новыя абшары і важныя стратэгічныя пункты. Зразумела, што абісінскае войска ня мае тых тэхнічных срэдстваў, як італьянскае, ды наагул вельмі слаба ўваружана і таму ня можа сапраціўляцца італьянскаму наступленьню. І ў гэтым можна бачыць найлепшы прыклад таго, што для перамогі ў сучасных і будучых войнах адыгрвае ролю якраз ня колькасьць войска, але яго ўваружэньне, арганізацыя і вышыня тэхнічных срэдстваў, з якіх можа карыстаць войска.

Тыя часы, калі перамога была па старане больш чысьленнага войска, калі казалі, што „мы іх шапкамі закідаем,“—мінулі. Цяпер перамога застаецца па старане тых, хто перавышае ня колькасьцяй войска, але яго якасьцяй, разумеючы пад гэтым, у першую чаргу, адпаведную вышыню тэхнікі.

Аднак італьянцы карыстаюцца дзеля перамогі ня толькі з аднэй чыста вайсковай тэхнікі, як самалёты, танкі, самаходы і т. п., але разам з гэтым яны яшчэ карыстаюцца і з другога вельмі важнага козыра ў сучаснай вайне, якім зьяўляецца ўмелая і належная агітацыя сярод насельніцтва таго краю, дзе вайна адбываецца. Якая-б ні была сільная армія ў новазаваёваным краі, яна ня можа разьлічаць на даўжэйшыя свае пасьпехі, калі мясцовае насельніцтва будзе да яе варожа адносіцца. Ня толькі разумнейшыя сучасныя палітыкі, але нават і стратэгі (вайсковыя) добра ведаюць, што цяпер „агнём і мячом“ ня толькі ня ўтрымаеш заваёванага краю, але нават і завяваць яго цяжка. Вось чаму італьянцы так шырака карыстаюцца з прапаганды сярод шматязыковага насельніцтва Абісініі і, як пішуць газэты, маюць пасьпех. Дзякуючы гэнай прапагандзе і пэўным абяцанкам, якіх можа ў будучыне і ня споўніць, італьянцы ўжо перацягнулі на свой бок некалькі начальнікаў пасобных абісінскіх акругоў, а зьнясеньнем у занятых італьянцамі абшарах існаваўшага там дагэтуль нявольніцтва, ды іншымі распараджэньнямі пэўне-ж выклікалі ў мясцовага насельніцтва прыхільныя да сябе адносіны. Магчыма, што гэная ўмелая палітыка італьянскіх генэралаў спыніла партызанку, усё-ж такі небясьпечную нават і для добра арганізаванай арміі.

Такім чынам італьянцы, калі толькі верыць газэтным весткам, адразу добра ўмацоўваюцца ў новазаваёваным краі, і таму абісінскім уладам ня вельмі лёгка будзе вярнуць сабе гэныя землі нават пры ўсякіх абставінах, якія-б маглі стварыцца ў далейшым цягу вайны. З свайго боку абісінская стратэгі часовыя пасьпехі італьянцаў прыпісваюць сваёй тактыцы, паводле якой трэба італьянскае войска заманіць у сярэдзіну свайго краю, як некалі расейцы заманілі войска Напалеона, дзякуючы чаму і лёс італьянскага войска будзе такі самы, які быў лёс войска Напалеона, інакш кажучы, нямінучая пагібель. Але, як бачым, тактыка італьянскіх генэралаў іншая, чымся тактыка Напалеона, хоць бы ў адносінах да мясцовага насельніцтва, і таму спадзяваньні абісінскіх вайсковых начальнікаў могуць і ня спраўдзіцца.

Як пойдзе далей італьянска-абісінская вайна і чым яна кончыцца, сягодня сказаць трудна, тым больш, што ў яе ўмешваюцца пасярэдна і іншыя дзяржавы, пакуль што ў форме, так званых, гаспадарчых санкцыяў, скіраваных процi Італіі.

Можна толькі адно бясспрэчна сьцьвердзіць, што вайна гэтая зьяўляецца яскравым прыкладам таго, як прыгожыя гутаркі дыплёматаў аб агульным міры гаворацца выключны па тое, каб пад іх заслонай лягчэй было ўваружацца ўсім тым, хто думае аб вайне, хто да яе імкнецца.

## Першыя гаспадарчыя дэкрэты.

Польскае Тэлеграфнае Агенства (PAT) падало ў прэсу ведамасьць, што Рада Міністраў 9-га гэтага лістапада ўжо прыняла пяць проектаў дэкрэтаў Прэзыдэнта Рэспублікі, якія пачынаюць акцыю ўраду, скіраваную да зроўнаважаньня дзяржаўнага бюджэту і пралажэньня дарогі дзеля ажыўленьня гаспадарчага жыцьця краю.

*Першы* з гэтых дэкрэтаў уводзіць спэцыяльны падатак ад вынаграджэньняў, выплачваных з публічных фондаў. Дэкрэт гэты мае прынцыповае значэньне, бо ён дае адразу эфэкт у форме паважнага зьменшаньня дэфіцыту. Рэшта дэфіцыту—згодна з праграмаю ўраду — будзе зьліквідавана шляхам павялічэньня паступлеьняў з падаходнага падатку (зразумела, што гэткае павялічэньне ўжо не абцяжыць дадаткова публічных працаўнікоў), а таксама шляхам ашчаднасьцяў і компрэсіяў у дзяржаўных расходах.

Спэцыяльнаму падатку ад вынаграджэньняў будуць падлягаць усе працаўнікі, якім вынаграджэньні выплачваюцца скарбам Дзяржавы і скарбам Сьлёнску, дзяржаўнымі манаполямі, банкамі, прадпрыемствамі, фондамі, інстытуцыямі і закладамі, саюзамі тэрытарыяльнага самаўраду і міжкамунальнымі саюзамі, а таксама прадпрыемствамі, банкамі і закладамі гэтых саюзаў, саюзамі гаспадарчага і прафэсіянальнага самаўраду, а таксама прадпрыемствамі, інстытуцыямі і закладамі гэтых саюзаў. Аплачваны будзе гэты падатак таксама і працаўнікамі праўна-публічных закладаў соцыяльных страхаваньняў і страхаваньняў ад агню.

Спэцыяльны падатак ад вынаграджэньняў будзе зьбірацца шляхам утрыманьня пры выплаце пэнсіяў, паводле гэткае прогрэсыўнае скалі:

ад вынаграджэньняў да 100 злотых ня будзе ўтрымлівацца нічога, пры пэнсіях ад 101 да 150 зл.—7%, ад 150-200 зл. — 9%, ад 200-250 зл.—10%, ад 250-500 зл.—11%, ад 500-1000 злотых — 14%, ад 1000-2000 злотых—17%, вышэй за 2000 злотых—25%.

Пры вынаграджэньнях, ад каторых аплачваецца дзяржаўны падаходны падатак, эмэрытальныя аплаты або складкі на карысьць соцыяльных страхаваньняў, скаля падатку адпаведна скарочана.

Вольнымі ад падатку будуць усякія інвалідзкія рэнты, пэнсіі вэтэранаў нацыянальных паўстаньняў, а таксама ўдоваў па іх, пэнсіі былых палітычных арыштантаў, пэнсіі прывязаныя да ордэну „Virtuti Militari“, ад'знакі „Krzyża Zasługi za dzielność“, пэнсіі асабліва заслужаных асобаў, выняткобыя пэнсіі, а таксама страхавыя рэнты фізычных працаўнікоў.

Спэцыяльны падатак ад вынаграджэньняў будзе ўведзены на 2 гады, гэта знач. ад 1 сьнежня сёл. году да 1-га сьнежня 1937 году.

*Другі* з прынятых радаю міністраў проектаў дэкрэтаў датычыць новэлізацыі закону аб ахове кватэрантаў. Ідучы да злагоджаньня абніжкі даходаў, якая выйдзе, дзякуючы ўвядзеньню спэцыяльнага падатку ад вынаграджэньняў публічных працаўнікоў, як і дзякуючы замеранаму падвышэньню скалі падаходнага падатку, аплачванага іншымі слаямі грамадзян, проектаваны дэкрэт аб зьмене закону аб ахове кватэрантаў абніжае аснаўную кватэрную плату, за кватэры і памяшчэньні, якія падлягаюць закону аб ахове кватэрантаў.

Абніжка гэтая будзе раўняцца 15 проц. для кватэраў, зложаных з 1-го або 2-х пакояў з кухняю і 10 проц. для большых кватэраў, а таксама для памяшчэньняў меншых прамысловых і гандлёвых фірмаў, а іменна тых, якія залічаны ў бягучым годзе да 7-е і 8-е прамысловае катэгорыі або да 3-е ці 4-е гандлёвае катэгорыі.

Абніжкі гэтыя ўводзяцца на час ад 1-га сьнежня 1935 году да 30-га лістапада 1937 году.

Адначасна з-пад закону аб ахове кватэрантаў будуць выняты кватэры, зложаныя з 6 пакояў і болей, прамысловыя ды гандлёвыя памяшчэньні з выняткам дробных вышэйназваных катэгорыяў, а таксама меншыя кватэры, якія паўстануць з перабудовы большых кватэраў.

Проект абгаворванага дэкрэту ўводзіць гэткія самыя 15 або 10-працэнтныя ільготы датычна кватэраў у будынках, належачых да скарбу дзяржавы, дзяржаўных банкаў, саюзаў тэрыторыяльнага самаўраду, закладаў соцыяльных страхаваньняў, а таксама іншых інстытуцыяў публічнага права. У дамох, якія належаць да закладаў соцыяльных страхаваньняў, абніжка гэтая будзе праведзена ў адношаньні да кватэрнае платы, быўшай у месяцы сьнежні 1934 году.

*Трэці*, прыняты радаю міністраў проект уводзіць значныя ільготы для бяднейшых слаёў грамадзянства. Датычыць гэты проект дэкрэту аплачваньня кватэрнага падатку. Проект пастанаўляе, паміж іншым, што кватэрнаму падатку ня будуць падлягаць кватэры з аднаго або двух пакояў, а таксама займаныя безработнымі кватэры з трох пакояў, калі ўласьнік гэткае кватэры з 3-х пакояў ня мае падкватэрантаў. Гэткім чынам, беручы пад увагу абніжку кватэрнае платы і скасаваньне кватэрнага падатку за кватэры з 1-го і двух пакояў, фактычна кватэрная плата будзе зьменшана больш як на 21 процант. Ільгота гэтая датычыць будзе больш як 1.100.000 сем'яў.

Ідучы пасьлядоўна ў кірунку палягчэньня долі горш забясьпечаных слаёў грамадзянства, проект дэкрэту касуе таксама і залегласьці ў падатку за кватэры, які прыпадае за час да 1-га студня 1936 году ад жылых памяшчэньняў з аднаго і двух пакояў.

*Чацьверты* — прыняты радаю міністраў—проек дэкрэту ўводзіць рад зьменаў у распараджэньне Прэзыдэнта Рэспублікі за 24 кастрычніка 1934 году аб папраўленьні гаспадаркі і фінансаў самаўрадовых саюзаў.

Гэты проект дэкрэт зробіць магчымымі, замераныя ў рамах фінансава-гаспадарчага пляну ўра-

ду ільготы для платнікаў камунальных давінаў, а ў першым радзе для *платнікаў вясковых*. Гэткім чынам дэкрэт зьяўляецца адным з элемэнтаў акцыі, якая ікмнецца да палягчэньня цяжкага палажэньня земляробства.

У тым самым кірунку ідзе *пяты* з прынятых 9-га лістапада дэкрэтаў у справе зьмены закону аб палёгках для крэдытных інстытуцыяў, пры прызнаваньні даўжнікоМ ільготаў у галіне земляробскіх даўгоў.

Далейшая сэрыя дэкрэтаў разглядаецца радаю міністраў на бягучым тыдні.

## Як паўстаў гэрб Пагоня?

Як ведама, беларускім дзяржаўным і нацыянальным гэрбам ёсьць Пагоня: белы конь, на якім сядзіць узброены ваяка з шчытом у левай руцэ (на шчыце шасьціканцовы крыж), а з мячом у правай.

Пагоня — гэта сымбаль дзяржаўнасьці Беларусі, яе багатае мінуўшчыны. Шмат паэтаў натхняў яе прыгожы вобраз і напаўняў душу верай. Пагоня... „ваякі на грозных канях“ — ведамы верш М. Багдановіча, якому здаецца, што гэтая Пагоня пяціць уздагон за сынамі Беларусі, якія адракліся яе, „прадалі і аддалі ў палон“. Поэт, заварожаны вобразам Пагоні, заслуханы ў рытм конскіх капытаў і бразгаценьне збруі — заклікае гэтую Пагоню:

„Бійце ў сэрцы іх! Бійце мячамі!
Не давайце чужынцамі быць...
Пагоня ймчыцца, як бура і ніхто яе не пераможа:
„...Старадаўняй літоўскай Пагоні
—не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць“...

Але цікава, скуль паходзіць і як паўстаў сам гэрб Пагоня. Адказаць на гэта прабуе Д-р Тамаш Грыб, які зьмясьціў у „Iskrach Skaryny“ (№ 5, 1935 г. Praha) навуковую стацьцю п. з.: „Да пытаньня аб паходжаньні гэрбу Пагоня“.

Аўтар бачыць у гэрбе Пагоні старадаўнага паганскага бога беларусаў — Ярылу, бога сонца, аплдненьня, каханьня, сілы.

Ярылу амаль усе народы прадстаўлялі ў эпоху пастушаскую ў вобразе белага каня (пэрсы, скандынаўскія народы і славяне).

У эпоху земляробскую, калі ў паняцьцях зьверы ўступілі месца чалавеку (антропоморфізм), да каня далучыўся і чалавек. Сонца ўжо ўяўляецца як прыгожы юнак на кані. Пасьля ўвядзеньня хрысьціянства бог Ярыла паступова замяняецца сьвятым Юрым.

На Беларусі сьвята бога Ярылы і яхо ўяўленьне захавалася ў найбольш чыстай форме, бо этнаграфічная Беларусь (Палесьсе) была калыскай усяго славянства. Калі ў беларусаў выступае на паверхню грамадзкага жыцьця кляса ваякаў, якія ваявалі перадусім на конях, то вобраз Ярылы зрабіўся як-бы сымболем для нашых коньнікаў. Такім чынам, калі для беларускага земляроба ранейшы бог Ярыла надалей быў „ідэалам здатнасьці, красы і сілы“, то для ваякі — шляхціца ідэалам здатнасьці, красы і сілы быў ужо другі Ярыла — з мячом і шчытом у руках і апрануты ў жалезны панцыр.

Ясна, што пасьля ўжо гэты вобраз лёгка мог зрабіцца і дзяржаўным гэрбам, бо шляхта была найбольш уплывовым дзейнікам у дзяржаве.

Так выглядаюць галоўныя тэзы Д ра Т. Грыба. Нельга ня прызнаць, што тлумачэньне паходжаньня (гэнэзы) пагоні, якое ён падае, стройна збудованае. Аднак, у гэтай справе трэ' было-б шмат папрацаваць, каб яе належна выясніць. Трэба было-б перадусім зрабіць дакладны агляд манэтаў, пячацяў і гэрбаў літоўскіх, польскіх і інш. бо мог тут быць проста і нейкі іншы уплыў. Як ведама, былі конныя пячаці (пячаці з ездакамі) і ў іншых народаў. А гэта ўжо паважны закід гіпотэзе аўтара стацьці. Зрэштай, д-р Т. Грыб і азначыў сваю стацьцю, толькі як прычынак да высьвятленьня беларускай гэральдыкі. У кожным прыпадку трэба прывітаць гэтую спробу—з часам шмат чаго выясьніцца яшчэ ў гэтай справе. Можа апрача этнаграфічна-лінгвістычнай гіпотэзы паўстане іншая. Важна, што зроблены пачатак.

*Гіст.*

## Балючая справа

У папярэдніх нумарох „Роднага Краю“ былі закрануты ў цэлым радзе артыкулаў царкоўныя справы. Пастуляты, якія былі там высунуты, як пераконываючыя і відавочна слушныя, знайшлі ўжо водгук у шырокіх кругох духавенства і грамадзянства. Царкоўная ўлада зрабіла нават першыя крокі на шляху іх рэалізацыі — выдала загады. Нажаль, у зьмешчаных артыкулах была зусім памінута справа ліквідацыі Віл. Прав. Духоўнае Сэмінарыі, справа важная і балючая, *цесна зьвязаная з беларусізацыяй Царквы.* Бо ж Віл. Духоўная Прав. Сэмінарыя зьяўляецца адзіным рассаднікам праваслаўя ў Зах. Беларусі. Фактам, аднак, ёсьць, што гэтая так важная навуковая ўстанова ліквідуецца пасьпешным тэмпам.

Як ведама, у Польшчы дагэтуль існавалі дзьве праваслаўныя сэмінарыі: адна ў Вільні для абслугоўваньня патрэбаў беларускага праваслаўнага насельніцтва, другая — у Крэменцы для украінцаў. Абедзьве Сэмінарыі былі дзяржаўнымі *з выкладовай мовай польскай* і толькі як прадмет выкладалася ў Вільні мова беларуская (вельмі занядбаная дзеля частых зьменаў вучыцялёў), а ў Крэменцы — украінская.

Мы ня будзем удавацца ў сумную гісторыю Віл Дух. Сэмінарыі, калі абмаскаленае духавенства і расейскае грамадзянства, наперакор беларусам, загарнула сэмінарыю і, здаючыся „сільным міра сего“, і пачало заводзіць прымусова полёнізацыю школы. Ня будзем успамінаць няэтычныя пастулкі некаторых ведамых духоўнікаў, якія ў экстазе захапленьня займаліся ўзломам замкоў у беларускім будынку, успомнім толькі прарочыя словы беларусаў, якія адразу казалі: „*калі ня будзе сэмінарыі беларускай, то ніякай ня будзе*“. Прароцтва збылося.

*Вышэйшая духоўная іэрархія ў Варшаве* па нарадзе толькі з пасобнымі адзінкамі з абедзьвюх сэмінарыяў у прысутнасьці дэлегата з Міністэрства *пастанавіла зьліквідаваць Віленскую і Крэмянецкую сэмінарыі і залажыць адну новую*, ведама, пад бокам мітрапаліта — *у Варшаве.*

Зразумела, што факт гэты вымоўны і мнагазначны. На беларускіх і украінскіх землях, дзе абсолютная большасьць праваслаўных, перастануць існаваць сэмінарыі, затое паўстане ў цэнтральнай Польшчы—у Варшаве, куды нават жадаючым вучыцца ў ёй будзе з „Kresów“ дабрацца вельмі і вельмі цяжка. Варшаўская пастанова, зробленая без засягненьня апініі ў шырокіх беларускага і украінскага праваслаўнага грамадзянства, наносіць правасл. Царкве балючы ўдар. Яшчэ ня позна падняць *справу адчыненьня ў Вільні Беларускай Правасл. Духоўнай Сэмінарыі.*

Ліквідатарам трэба даць рашучы адпор з боку беларускага народу, якому залежыць мець сваіх пастыраў, а не духавенства з радоў „раболепствующаго в чужой стране“ дробнага расейскага мяшчанства, недабіткаў розных царскіх чыноўнікаў і т. п. Беларусы, як поўнапраўныя грамадзяне ў Польскай Рэспубліцы, маюць права гэтага дамагацца.

Ужо настаў час ачысьціць задушную атмасфэру ў царкоўных вярхох. Беларускі народ, верны традыцыям праваслаўных брацтваў з XVI—XVIII в. будзе вясьці працу над узмацаваньнем праваслаўя ў роднай беларускай мове, будуцзе вясьці змаганьне з чыноўніцкім духавенствам, якое адарвалася ад народу.

Таму мы павінны дамагацца скасаваньня варшаўскае пастановы і поўнае беларусізацыі Духоўнае Сэмінарыі, скульбы выходзілі беларускія духоўнікі, якія-б вучылі народ у яго роднай зразумелай мове.

Мала таго, уважаем, што аднае сэмінарыі для некалькіх мільёнаў Беларусаў у Польшчы — гэта замала, тым больш, калі возьмем працэнтна сэмінарыі каталіцкія ў адносінах да каталікоў у Польшчы.

*Vir.*

## У Грэцыі ізноў монархія.

Да 1925 году ў Грэцыі быў монархічны лад. На чале дзяржавы стаяў кароль Юры II-гі. Адбыўшаяся ў гэным годзе рэвалюцыя змусіла караля Юрага зрачыся трону і выехаць заграніцу. У краі замест монархіі стала рэспубліка на чале з прэзыдэнтам.

Аднак за апошнія гады староньнікі монархіі пачалі вясьці ў краі сільную агітацыю проціў рэспублікі, прычым перацягнулі на свой бок некалькіх быўшых рэспубліканцаў, у іх ліку генэрала Кондыліса і шмат афіцэраў.

Бачучы гэта, рэспубліканцы на чале з Вэнізэлёсам, які аж некалькі разоў быў міністрам-прэм'ерам, спрабавалі зрабіць пераварот з мэтай узмацненьня рэспублікі. Спроба не ўдалася і Вэнізэлёс быў змушаны ўцячы заграніцу.

Гэта яшчэ больш асьмеліла монархістаў, якія праз нейкі час пасьля здушэньня паўстаньня Вэнізэлёса, патрэбавалі ад ураду ўвядзеньня ізноў монархічнага ладу ў Грэцыі.

Урад падаўся ў адстаўку, а на чале новага ўраду стаў генэрал Кондыліс, даўнейшы рэспубліканец, а цяпер заядлы староньнік монархіі. У краі было ўведзена ваеннае палажэньне, парлямэнт прыняў пастанову аб адмене рэспубліканскага ладу і ўвядзеньні монархіі на чале з быўшым каралём Юрым II-м, прычым былі вернены правы як каралю Юраму, так і іншым сябрам каралеўскай сям'і.

На прапазыку генэрала Кондыліса каралю Юраму II-му заняць свой даўнейшы трон, кароль Юры адказаў, што дасьць згоду на гэта толькі тады, калі за гэта выкажацца большасьць грэцкага народу.

3-га лістапада гэтага году адбылося народнае галасаваньне ў справе вырашэньня пытаньня аб дзяржаўным ладзе, прычым за монархію выказалася 95 процант. галасуючых. Пасьля галасаваньня выехала да караля Юрага ў Лёндан асобая дэлегацыя з просьбай аб павароце на свой даўнейшы трон. Кароль згоду даў і такім чынам ў Грэцыі ізноў будзе монархічны лад на чале з быўшым каралём.

Праваслаўнае грэцкае духавенства па загаду Сыноду пачало „памінаць караля і насьледніка ў часе царкоўнай службы“, як асобы, стаячыя на чале дзяржавы.

Да грэцкага перавароту ў Эўропе было пароўну монархіяў і рэспублікаў—па 14, а цяпер монархіяў ёсьць 15, а рэспублікаў 13.

Газэты пішуць, што грэцкі пераварот адбыўся не бяз уплыву Англіі, якая імкнецца захаваць сваю перавагу ў Міжземным Моры, дзеля чаго ў першую чаргу стараецца спаралізаваць італьянскія ўплывы на Балканах. *К.*

# Панскі дар.

(Глядзі № 29 „Роднага Краю“).

II.

Праз месяц зямля абсохла. Адважнейшыя з сялян — суседзяў Цёмнага-Бору, пачалі дворную ральлю плугамі параць. Ім усыпалі, паводле пляну Хабаркоўскага. А тут і сам ён важна параю коняй прыпёр, сабраў вялізны натаўп ваколічных сялян у паразуменьні з гусарскім лейтэнантам, паслаў спрытнага парабка ў вялікае беднае сяло суседняй воласьці, каб і адтуль дэлегаты па зямлю, каторую ён падарыць, зьявіліся. Дэлегатам гэтым даў гарэлкі і навучыў маўчаць, аж пакуль ён з мясцовымі сялянамі ўмовы падпісваць не пачне.

І пачаў рабіць сваю „рэформу“.

Перш за ўсё на вахмайстра нямецкага гэтулькі моцных словаў высыпаў, што дзядзькі толькі плячыма пацiскалі ад зьдзіўленьня:

— Бачыш, які адважны пан!

А пан сыпаў лаянкай, як з мяшка.

Немец стаяў спакойна, ледзь стрымліваючыся ад сьмеху.

Лейзара Арандара зусім ужо з балотам зьмяшаў Хабаркоўскі:

— Як ты сьмеў дапусьціць, паганец, нехрыст, каб за маю зямлю народ хрысьціянскі наш розгамі парылі? Зямля мая і я ёй гаспадар! Чаму ты, жыдзе, ў мяне ня спытаўся, як цяпер новае жыцьцё з народам пачаць?!

Прамовы ў часе рэвалюцыі былі ў модзе. Загнуў прамову і пан Хабаркоўскі да сабраных сялян.

— Вось як, браточкі, на сьвеце бывае,—казаў ён, — рэвалюцыя цяпер, цара скінулі, іначай жыць пачынаем. Але як пачынаем? Ня год і ня два сядзеў тут у маім двары Лейзар Арандар, гаспадаркаю маёю кіраваў, вам даваў заработкі, а вы з ім пасуседзку жылі. Можа гэта і нядобра крыху было, што я вось пан, сам зямлі не абрабляў, нават сюды не паказваўся, а гатовы даход грашыма ад Лейзара сабе даставаў. Цяпер, кажуць, зямлю трэба таму аддаць, хто сам на ёй працуе. Сам ніхто шмат не абробіць. Дык нашто мне ўвесь гэты Цёмны-Бор? Што я з ім параджу? Пакіну сабе столькі, колькі кожнаму з вас прыпадзе. А дзеля таго, што і ў вас ня ў кожнага зямлі пароўні ёсьць, дык давайце ўсю зямлю—і маю і вашу—нанова перадзелім, каб крыўды нікому ня было. Што ўсім, тое і мне. Колькі кожнаму выпадзе на сям'ю, хай так і будзе. Ізноў палюдзку жыць сабе будзем, а ня так, што дзе хто плугам парнуў, там і маё. А немцы за гэта пасьля лазы даюць. Самі-ж вось чулі, як я вахмайстра іхняга прабраў, а Лейзару дык ледзь у морду не заехаў, што над вамі, хрысьціянамі, гэткі зьдзек рабіць пазваляе: вольныя грамадзяне, а тут ім у матню розгамі сыплюць! А ўсё таму, што парадку няма. Немцы парадак любяць, а ў нас што робіцца? Дык вось, хто тут з вас добра граматны? Няхай сядае і ўсю зямлю нашу, у каго колькі ёсьць, пасьпісвае...

Пісар знайшоўся тут-жа і Хабаркоўскі пачаў дыктаваць:

— Задуха—найбліжэйшая да двара. Хто тут ёсьць старэйшы з вёскі Задухі?

— Стараста хай за ўсіх, што трэба, кажа, — аказаўся нехта з натаўпу.

— Задухаўскі стараста, колькі ў вас зямлі?—голасна спытаўся Хабаркоўскі.

— Чатырыста сорак дзесяцін, — пачуўся адказ.

— Запішэце! — скамандаваў Хабаркоўскі пісару.

— А гаспадароў колькі?

— Сто тры.

— Далей! Вербаўка?—пытаецца Хабаркоўскі, — колькі зямлі і колькі гаспадароў?

— Сухмяні?

— Мельнікі?

— Будрыкі?

Калі ўсё вёскі і хутары былі

# Пісьмо у рэдакцыю.

В. П. Гр. Рэдактар!

Ветліва прашу зьмясьціць на старонках Вашае газэты наступнае пісьмо, за што наперад шчыра дзякую.

У „Бел. Крыніцы“ № 41 ад 3.XI.35 у т. зв. „Студэнскай Трыбуне“ № 6 была зьмешчана перадавіца, аўтар („Я. М.“—Язэп Малецкі) каторай, успамінаючы аб сэрвілізме, прыводзіць „словы з верша С. Сарокі“ — Наперад, наперад! пакорна сагнуўшы сьпіну“.

У сувязі з гэтым сьцвярджаю:

1) Я ніколі і ў ніякім з сваіх вершаў ня ўжыў сказу — „Наперад, наперад! пакорна сагнуўшы сьпіну“. У вершы „Наперад!“, галоўная думка каторага наступная: „...Наперад! — жыцьцё перагонім і творчаю мукай народзім Прарыцара Крыўскай Пагоні, што збудзіць—наперад! ў народзе, заспаную долю зварушыць, вяковы сон з цемраю скрушыць! Наперад! Наперад, бяз спыну і думкай, і сэрцам, і целам, сагнуўшы някорную сьпіну, наперад! віхром звар‘яцела!...“ — вось-жа ў гэтым вершы слова „някорную“ пры наборы было перакручана на „пакорную“. Наагул верш гэты быў надрукаваны з вельмі многімі карэктарскімі памылкамі, што і было сьцверджана ў наступным нумары газэты, зьмясьціўшай гэты верш. Урэшце і бяз гэтых паправак відаць адразу, што слова „пакорную“ сьпіну ў гэтым вершы было-бы не на месцы, з увагі на яго агульны характар і галоўную думку.

2) Пасьля таго, як быў надрукаваны (1929 г.) гэты верш., Бел. Нацыяналістычная Група Студ. У.С.Б у 1931 г., з прычыны сьвяткаваньня XI угодкаў Слуцкага паўстаньня, выдае адозву, падпісаную ад імя Групы З. Каўшанкай, С. Сарокаю, Я. Малецкім. У наступныя гады я займаю доўгі час адказнае становішча ў аднэй з сэкцыяў Бел. Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, адносна катора п. Я. Малецкі якраз і да сяньня трымае „пакорна сагнуўшы сьпіну“. Яшчэ ў мінулым акад. годзе мяне двойчы выбіраюць (нават і галасамі сяньняшніх рэдактараў „Студ. Трыбуны“) у лік сяброў Ураду Бел. Студ. Саюзу ў Вільні (быў віцэстаршынёй і гаспадаром Саюзу), выбіраюць у сябры Ураду Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры УСБ і г. д. Калі, згодна з аўтарам перадавіцы, я публічна прапагую сэрвілізм, то трэба прыняць наступны лёгічны выснаў: або вышэй успомненыя арганізацыі зьяўляюцца таксама сэрвілістычнымі, або — п. Я. Малецкі сьведама хацеў зрабіць мне прыкрасьць.

Ясна, трэба прыняць гэта другое. Чым яно выклікана? У газэце „Беларусь Працы“ рэчова я выказаў і ўрэшце заявіў, што такая „незалежнасьць“, якую прапагуюць Хадэкі, ў Незалежнай Беларусі будзе карацца „куляю ў лоб“. Вось-жа, п. Я. Малецкі, дзякуючы матэр‘яльным абставінам сяньня прымушаны бараніць аўторытэт бел. Хадэцыі. Ня могучы зрабіць мне рэчовых закідаў, п. Я, Малецкі (і яму падобныя) стараюцца зрабіць мне хоць нейкую прыкрасьць. Таму ён прыпісывае мне тое, чаго я ніколі не пісаў.

3) Карыстаючыся гэткім мэтадам, г. зн. выбраўшы паасобныя словы, прыкладам, з лексыкону п. Я. Малецкага, і пасьля адпаведна іх скампанаваўшы,—у адказ на сьведамае і беспадстаўнае рабленьне мне прыкрасьці, можна сказаць: „як ты вельмі подленькі, а яшчэ больш дурны!“—„словы з лексыкону п. Я. Малецкага“.

*С. Сарока.*

Вільня дн. 9.XI. 35 г.

# Гаспадарчы аддзел.

### Роля вывазных прэміяў ў тэорыі і сапраўднасьці.

Каб выраўняць свой платнічы білянс з заграніцай, кожная дзяржава імкнецца ў адпаведным маштабе павялічыць свой экспорт (вываз). У апошнія гады эўрапэйскія дзяржавы з асаблівай заўзятасьцю пачалі выпіхаць свой тавар заграніцу, адначасна абмяжоўваючы ўвоз тавараў чужых. Для правядзеньня такое гаспадарчае палітыкі, дзяржавы ўжываюць галоўным чынам вывазных прэміяў і мытных бар‘ераў. Сваім купцом, якія вывозяць пэўныя тавары заграніцу, плаціцца дзяржавай адпаведная прэмія, а на чужыя тавары, якія канкуруюць з краёвымі, накладаецца на граніцы пэўнага разьмеру аплата (мыта).

Плацячы вывазныя прэміі, дзяржава мае на ўвазе пашырэньне збыту заграніцай некаторых тавараў, а гэтым самым і падняцьце іх цаны ўнутры краю. Знача той, хто вырабляе гэтыя тавары, будзе мець больш даход і будзе імкнуцца пашырыць выраб гэтых тавараў. Гэтак прыблізна выглядае справа ў тэорыі. У практыцы-ж часта бывае, асабліва пры экспарце земляробскіх артыкулаў, што ад вывазных прэміяў фактычны прадуцэнт тавараў ня мае ніякае карысьці, а ўзбагачваюць яны толькі экспартэраў (купцоў, якія вывозяць тавар заграніцу).

Нешта падобнае творыцца ў нас з вывазам ляннога валакна заграніцу. Гэтай справай ужо занялася земляробская прэса. У сёлетнім № 42 „Przewodnika Gospodarskiego“ чытаем артыкул пад такім загалоўкам: „Eksport lnu w niepowołanych rękach“. Дзеля таго, што справа збыту лёну павінна нашу вёску вельмі цікавіць, то мы і пастараемся зьмест гэтага артыкулу па магчымасьці перадаць поўнасьцю.

Перш за ўсё аўтар артыкулу падчырківае, што, як дапушчаюць гандлёвыя ільнярскія сфэры, сёлетні экспарт лёну будзе вялікі, прыблізна на суму 20 мільёнаў злотых. Сума гэтая — кажа аўтар,—на нашыя ўмовы, настолькі вялікая, што мы мусім зьвярнуць увагу на паважныя недахопы ў арганізацыі экспарту лёну, каторы якраз становіцца адным з найпаважнейшых экспортных артыкулаў нашае Дзяржавы. Далей аўтар сьцьвярджае, што дзякуючы сьмелай ініцыятыве ўладаў вельмі „заслужанага“ на Віленшчыне „Саюзу Ляннога Гандлю і Экспарту“, а таксама вельмі нядвузначнай ролі кантралёра—Прамыслова-Гандлёвай Палаты ў Вільні, у экспартовай кампаніі ў 1934-35 г. дзяржаўны скарб выплаціў многія дзесяткі тысячаў злотых, як вывазныя прэміі сябром таго-ж Саюзу за тое, што яны, экспартуючы неадпаведны стандарызацыйным нормам і запаскуджаны рознага роду сьмяцьцём лён, абніжалі марку польскага лёну заграніцай.

Здавалася-б, што Міністэрства Промыслу і Гандлю (а нават мажа Міністэрства Справядлівасьці) павінна было-б заглянуць у дзіўныя справы „Саюзу Ляннога Гандлю і Экспарту ў Вільні“. Тымчасам, Міністэрства Промыслу і Гандлю — цытуе аўтар з № 221 „Gazety Handlowej“ — загадала, што ўсе фірмы,—як ня дзіўна, — на тэрэне Прамыслова Гандлёвых Палатаў у Вільні і Варшаве (ваяводзтвы: віленскае, беластоцкае, наваградзкае, палескае, варшаўскае і ст. Варшава), якія займаюцца экспартам лёну, павінны пакуль што быць злучанымі ў Саюзе Ляннога Гандлю і Экспарту ў Вільні, кантроль-жа над дзейнасьцю Саюзу Міністэрства даручыла Гандлёва-Прамысловай Палаце ў Вільні“.

„Як відаць, Міністэрства Промыслу і Гандлю, ня толькі ня прызнала дзейнасьць Саюзу шкоднай для Дзяржавы, але нават пашырыла граніцы яго дзейнасьці, удзяляючы гэтаму-ж Саюзу, а ў сапраўднасьці фірмам „Лён“, „Стандарт“ і „Флякстов“, — фактычны *манаполь* на экспарт лёну з Віленшчыны, а нават і з 6 іншых ваяводзтваў Польшчы. Такім чынам Саюз Ляннога Гандлю і Экспарту ў Вільні зможа адкармляцца вывазнымі прэміямі, тым больш, што кантроль над экспартам лёну выконваюць „свае людзі“ з Прамыслова-Гандлёвай Палаты ў Вільні.

З Віленшчыны і з Галіцыі часта вывозіцца лён, часаны ручным спосабам. Такое „часаньне“ адбываецца вельмі проста: жменьку лёну працягваюць адзін або два разы праз шпіцоўнік (найрадзейшы грэбень) і за гэта атрымоўваюць вывазную прэмію ў разьмеры не 500 злотых, як за трапаны лён, але 1000 злотых ад вагону, як за лён часаны. Розьніца,— як бачым, — вялікая.

Калі экспарт лёну з Польшчы — як прадбачыць дырэктар Саюзу Ляннога Гандлю і Экспарту ў Вільні—асягнэ ў бягучай кампаніі 16.000 т., то (лічачы, што абодва Саюзы—віленскі і львоўскі атрымаюць прэміі толькі за 10.000 т., з якіх палова будзе лёнам, так сказаць, „часаным ручным спосабам“, а другаю палова трапаным) скарб Дзяржавы—далікатна кажучы — будзе ашуканы нашымі купцамі больш чым на 700.000 злотых.

*Міністэрства Промыслу і Гандлю павінна магчыма хутчэй загадаць правесьці сьледства ў гэтай справе і няўдачна выдадзенае распараджэньне аб увядзеньні фактычнага манаполю на экспарт лёну зараз-жа ануляваць.*

Няўмела праводжаны Прамыслова-Гандлёвай Палатай кантроль экспарту лёну павінен быць даручаны Земляробскім Палатам (Izbam Rolniczym“).

Як відаць з вышэйпрыведзенага артыкулу, справа экспарту лёну стаіць у нас зусім дрэнна. Калі ўсё, што піша аўтар ў „Przewodniku Gospodarskim“ зьяўляецца праўдай, то простая лёгіка наказвае, каб была праведзена рашучая рэарганізацыя гэтае справы, бо іначай усе высілкі ўладаў дадуць зусім адваротныя вынікі.

N.

## Радыё-канцэрт беларускага хору.

21-га гэтага лістапада а гадзіне 16-45—17.00 ў віленскім радыё выступіць беларускі хор пад кіраўніцтвам гр-на Г. Шырмы, які прапяе прысьпеўкі, народныя танцы і бяседныя песьні, гарманізацыі кампазытараў Л. Рагоўскага, К. Галкоўскага, А. Нікольскага, М. Равенскага, Т. Уладзімірскага, М. Анцава, А. Грэчанінава і А. Сьвешнікава.

У праграму канцэрту ўвойдуць: „Баба ракі варыла“, „Бульба“, „Дзе ты, хмелю, зімаваў?“, „Лявоніха“, „Ня стой, каліна“, „Ой, бяда ж мая“, „Лучына-лучыначка“, „Конь бяжыць, зямля дрыжыць“, „А ў полі вярба“.

## Колькі на ўсім сьвеце скаўтаў?

Паводле дадзеных апошняе статыстыкі, цяпер на ўсім сьвеце ёсьць 2.472.014 скаўтаў, якія належаць да зарэестраваных арганізацыяў. У Эўропе няма скаўтаў толькі ў Італіі, Альбаніі і Нямеччыне.

**Пашырайце нашу газэту.**

пасьпісваны, дык аказалася, што зямлі налічваецца няшмат, а гаспадароў столькі, што, нават дадаўшы да іхняй зямлі ўсе тры тысячы дзесяцін з Цёмнага-Бору, кожны атрымае пры роўным падзеле ня больш, як сем дзесяцін.

— Дык што-ж выходзіць? — пачулася з натаўпу,—цяпер у мяне дваццаць дзесяцін, а вы мне хочаце толькі сем пакінуць?

— Усім пароўні,—хітра зазначыў Хабаркоўскі, — у мяне 3000 дзесяцін, а будзе толькі сем.

— Э, нядобра гэтак будзе! — загулі галасы, — усе здрабнеюць зусім, яшчэ горшая бяда пачнецца!...

— Але справядліва! — крычаў Хабаркоўскі, — усім пароўні, інaчай ня выходзіць. Дзе-ж нам зямлі для ўсіх набрацца? Я аддаю ўсё, што маю, хай кожны аддае...

— Ня трэба так! На чорта нам гэткі дар?—чулася з натаўпу.

— Галасаваць! — скамандаваў Хабаркоўскі,—хто за тое, каб усю зямлю— і маю і вашу—разам злажыць, а пасьля пароўні падзяліць, хто за гэта — паднімі руку ўгару!

Вялізарная большасьць рук паднялася ўгару.

Шмат меншая часьць сялян адыйшла ў бок, горача між сабою разважаючы. Тут апынуліся ўсе, хто меў зямлі больш, як сем дзесяцін.

Пісар пісаў пратакол, Хабаркоўскі дыктаваў яму, а сялянам тлумачыў, што кожнаму гаспадару выйдзе па сем дзесяцін зямлі.

— Ну, хто ўмее — падпісвайце, а пасьля вас усіх я ўгавор наш падпішу, — заклікаў Хабаркоўскі сялян.

Аж раптам вырасла перад сходам новае пытаньне:

— Як гэта!? Дык ужо і падзялілі Цёмны Бор? І бяз нас? — пачуўся гучны голас дзядзькі з чужога сяла суседняй воласьці.

— А колькі ў вас гаспадароў? — пытаецца пан Хабаркоўскі.

— Сто семдзесят тры.

— А зямлі шмат?

— Чатырыста дваццаць дзесяцін..

— Ня трэба іх, з іншае воласьці!—загуло ў натаўпе.

— Як-то ня трэба?—закрычаў Хабаркоўскі, — для мяне ўсе вы роўныя!

— Ня трэба нам гэткай роўнасьці! — загуло яшчэ мацней сярод натаўпу.

— Усе з торбамі пайдзём!

— Гародчык ды хатка на кожнага выйдзе!

— Казы ня выкорміш на гэткай гаспадарцы!

— Нічога ня трэба чапаць! Лепш кожны хай пры сваім застаецца!

Гэтага толькі й чакаў Хабаркоўскі.

— Дык і мне пры сваім пазвольце застацца! — гукнуў ён, — чым я за вас горшы? Усё вось дзеля агульнага дабра ахвяраваць хацеў, але ня выходзіць ніяк!

Ніхто ў круцельстве Хабаркоўскага ня мог разабрацца. Заможнейшыя сяляне адзін за адным даўно ўжо паўцякалі са сходу, а бедната скрабла патыліцы, ня могучы сьцяміць, як гэта так выйшла, што з вялікага двара Цёмнага-Бору гэтак мала кожнаму гаспадару зямлі выходзіць? Некаторыя дык нават зусім згалеюць, шмат зямлі страціўшы.

— Вось табе і панскі дар! — чухаліся старыя дзядзькі, — і без таго было шмат галіты, а тут ён табе гэткую штуку выдумаў, каб усіх з торбаю пусьціць.

Сход зусім разваліўся. Ня прыняў народ панскага дару з гэткаю хітраю „зямельнаю рэформаю“.

Хабаркоўскі зарабіў ад Лейзара паўтары тысячы марак за тое, што даў яму магчымасьць яшчэ крыху спакойна ў двары пасядзець.

І сядзеў сабе Лейзар у Цёмным-Бары, пакуль немцы былі ў Ігуменшчыне.

А былі яны там нядоўга.

*Звончык.*

Канец.

# Ці магчыма франка-нямецкае зблiжэньне

Трэцяга дня прэм'ер Ляваль меў нараду з францускім паслом у Бэрлінэ—Франсуа Понсэ. Нарада гэтая выклікала ў палітычных кругох цэлы рад тлумачэньняў, бо ніхто не сумліваецца ў тым, што гутарка Ляваля з Понсэ адбылася ў сувязі з прыездам у Парыж правай рукі Гітлера—Рыббэнтропа.

Газэты паведамляюць, што Рыббэнтроп прыбудзе ў Парыж у наступным тыдні. Рыббэнтроп будзе вясьці ў Парыжы перагаворы адначасна аб заключэньні паветранага пакту, аб магчымым аграніічэньні сухапутных збраеньняў і аб калёніяльных дамаганьнях Нямеччыны.

„Эксэльсіор" нават цьвердзіць, што галоўнай тэмай перагавораў будзе пытаньне аб франка-нямецкім зблiжэньні. У сучасны мамэнт, — піша газэта, — Ляваль зьяўляецца гарачым прыхільнікам гэткага зблiжэньня.

„Фігаро", паведамляючы аб маючыхся адбыцца перагаворах з Рыббэнтропам, ня сумліваецца ў тым, што Нямеччына Гітлера рыхтуецца да новай вайны. Нямеччына — піша газэта,—ператвараецца ў ваенны лагер. Нямецкі ўрад імкнецца да таго, каб у нямецкай моладзі зьявілася любоў да перамогі. Усё жыцьцё нямецкае дзяржавы падпарадкавана падгатоўцы да вайны, да стварэньня арміі, каторая ў адпаведным мамэнце пазволіць нямецкаму ўраду гутарыць рашучым тонам. Адным словам вайна,—піша „Фігаро".—Але калі яна пачнецца? Відаць, праз два гады (гэты срок устаноўлены заўсёды добра асьведамленым „Інтэліжэнс Сэрвіс-ам").

Што павінна рабіць Францыя? Зблізіцца з Нямеччынай? Заплаціць за гэтую згоду адмовай умешвацца ў справы цэнтральнай і ўсходняй Эўропы? Хай Нямеччына ідзе, куды хоча, абы ня ў сторану Францыі. Ясна, такая палітыка магчымая, такія пагляды маюць у Францыі ня мала прыхільнікаў,—але што-ж рабіць? Якія вынікі дасць такога роду палітыка?

Першым рэзультатам гэткай палітыкі будзе тое, што Францыя страціць уплыў на справы Эўропы, другім—рух немцаў на Захад і ў першую чаргу ў Францыю. І у той-жа час,—піша „Фігаро",—немагчыма зачыніць Нямеччыне вакно ў сьвет, немагчыма сідзець на пакрыўцы поўнага пары нямецкага катла.

# Пратэст Італіі проціў санкцыяў.

Італія выступіла з пратэстам проціў тых дзяржаваў, сяброў Лігі Народаў, каторыя пастанавілі правясьці ў жыцьцё гаспадарчыя санкцыі супроць Італіі.

Італьянская нота крытыкуе санкцыі з праўнага пункту гледжаньня, зварочваючы ўвагу на тое, што § 16 дагавору Лігі не праводзіўся ў жыцьцё ані ў часе манджурскага конфлікту, ані ў часе балівійска-парагвайскай вайны.

Італьянскі ўрад ня прызнае компэтэнцыі коордынацыйнага камітэту Лігі Народаў і ўважае, што кожная дзяржава індывідуальна адказвае за ўвядзеньне ў жыцьцё санкцыяў.

Нота пужае вострымі гаспадарчымі рэпрэсіямі проціў дзяржаваў, якія ўвядуць санкцыі.

У Лёндане чакаюць, што 18 лістапада, калі санкцыі войдуць у жыцьцё, Італія адмовіцца ад гандлёвых дагавораў з усімі дзяржавамі, да каторых выслана ўспомненая нота пратэсту.

## Становішча Францыі ў справе Італьянскага пратэсту.

Міністэрства замежных справаў Францыі прыступіла да разгляду італьянскае ноты. Адказ на яе, як дапушчаюць, будзе дадзены перад 18 лістападам, г. знача да правядзеньня ў жыцьцё санкцыяў. Афіцыяльныя кругі пакуль што ня выказываюць свайго адношаньня да італьянскай ноты. Аднак амаль усе пераконаны, што ніякай радыкальнай зьмены курсу палітыкі ня толькі Францыі, але і ўсіх тых дзяржаваў, якія выказаліся за прыняцьце санкцыяў, ня можа быць.

Згодна з паведамленьнем Гаваса, Францыя будзе ўчасьнічаць у колектыўных мерапрыемствах, прадугледжаных 16 параграфам статуту Лігі Народаў, але адначасна зробіць усе высілкі, каб аграніічыць санкцыі гаспадарчай і фінансавай сфэрай, не адмаўляючыся ад імкненьняў вырашэньня конфлікту мірным шляхам.

Ляваль маніцца выступіць з новай прапазыкай аб перагаворах з Італіяй, як толькі наступіць адпаведны для гэтага мамэнт.

# Пагроза Італіі аб выхадзе з Лігі Народаў.

Як паведамляе парыжскі карэспандэнт „Морнінг Пост", італьянскі пасол паведаміў ангельскае пасольства, што Італія, магчыма, пакіне Лігу Народаў і пераменіць сваю палітыку адносна Аўстрыі.

У сувязі з гэтай апошняй пагрозай, добра паінфармаваныя францускія кругі прыпісываюць важнае значэньне сустрэчы Алёізі з італьянскім паслом у Бэрліне, якая (сустрэча) адбылася ў паўдзённай Нямеччыне.

# Заяўленьне Хора

Як пішуць ангельскія газэты, міністар замежных справаў Англіі Хор на прадвыбарным сходзе выступіў проціў прапазыкаў рабочай партыі і Лёйд-Джоржа заблёкаваць раён Суэцкага каналу і Гібральтар для таго, каб спыніць высылку італьянскіх войскаў у Афрыку. Па словам мін. Хора гэткая блёкада выклікала-б зараз-жа вайну з Італіяй і зьнішчыла-б прынцып колектыўных мерапрыемстваў Лігі Народаў.

# З Італа-абісінскага фронту

Лінія італьянскага паўночнага фронту праходзіць у сучасны мамэнт у 12 кілёмэтрах ад Макальле. Сам горад Макальле ўжо захоплены італьянцамі. На ўзгор'і Тэмбеш італьянцам не ўдалося знайсьці ворага — абісінцаў.

Па весткам „Popolo di Roma", на паўночным фронце знаходзіцца 180.000 салдатаў-абісінцаў, а на паўдзённым—60.000. Апрача таго, абісінцы маюць у сваім распараджэньні 40-тысячную рэзэрвную армію.

— —

Паводле атрыманых у Італіі вестак, яшчэ аднак неспраўджаных, абісінцы ў раёне паўдзённага Цігру концэнтруюць армію з 220.000 салдатаў для таго, каб змусіць італьянцаў да бою воддалі ад іх камунікацыйных лініяў і выхадных базаў.

Ведаючы аб гэтым, італьянскае вайсковае кіраўніцтва дзейнічае вельмі асьцярожна і зьмяншае шыбкасьць перасоўваньня сваіх войскаў у Цігры.

— —

Атрыманыя ў Францыі весткі пацьвярджаюць пачатковыя чуткі аб тым, што каля Горрахаі італьянцы панясьлі вялікую паражку. Абісінцы захапілі 6 італьянскіх танкаў. У часе бою некалькі італьянцаў забіта, а каля тысячы самалійцаў трапіла ў палон. Горрахаі і Даігабур знаходзяцца надалей у руках абісінцаў.

Кажуць, што армія раса Дэсты, якая прайшла ўздоўж граніцу брытанскай Кэніі, пасунулася да Долё, а адтуль пачала паход на Луг-Фэрандзі. Паводле іншых чутак—рас Дэста ідзе на Мустагіль, каб з паўдня абыйсьці італьянцаў, якія знаходзяцца ў італьянскім Сомалі. У Гаррары супакой. Некаторыя кругі паведамляюць, што італьянцы сумысьля мінулі Горрахаі, не займаючы гораду, а абісінцы ці то вярнуліся ў горад, ці то быццам яго наагуль не пакідалі.

На поўдзень ад Джыджыгі абісінцы замацоўваюць свае пазыцыі. Дапушчаецца, што абісінцы маняцца тут уступіць з італьянцамі ў вялікшы бой.

# Парлямэнтарныя выбары ў Англіі

Учора ў Англіі адбыліся агульныя выбары. Ангельскае грамадзянства павінна было выбраць 615 сяброў Гміннае Палаты. Агульная лічба выбаршчыкаў дасягнула 31.305.27 чалавек. На выбарах фігуравала 1345 кандыдатаў, у тым ліку консэрватараў—512; лібэрал-нацыяналістаў—45; нацыянал-лябурыстаў—20; другіх прыхільнікаў нацыянальнага ўраду—17; рабочай партыі—541; незалежнай рабочай партыі—17; лібэралаў разам з групаю Лёйд-Джорджа—155; камуністаў—2.

Апрача таго выстаўлены былі 26 кандыдатаў, якія не далучыліся да ніводнай з гэтых партыяў і ўгрупаваньняў.

Консэрватары на чале з Бальдвінам, лібэрал-нацыяналісты на чале з Макдональдам і 17 другіх кандыдатаў выступілі на выбарах „адзіным фронтам прыхільнікаў нацыянальнага ўраду."

Хто пераможа?

Вікхэм Сьцід, быўшы рэдактар „Таймс", у гутарцы з лёнданскім корэспандэнтам францускае газэты „Пці Парізьен" правёў вычэрпываючы аналіз абставінаў, у якіх прайшла прадвыбарная кампанія ў Англіі

Зразумела, што эканамічныя інтарэсы Англі ў Кэніі і навакол возера Цан, і жаданьне абараніць вялікі індыйскі шлях ад усялякіх несьпадзянак, і брытанская перавага ў Міжземным моры—усё гэта было прынята пад увагу ўрадам, калі ён пастанавіў распусьціць палату і вызначыць новыя выбары. Аднак, ня ў гэтым — ключ міжнароднай палітыкі Англіі. Аб возеры Цан і аб вялікім індыйскім шляху думае, праўду кажучы, толькі жменька ангельцаў. Увесь-жа народ перажывае нешта больш глыбокае: ён зразумеў, урэшце, што пасьпехі авіяцыі пазбавілі астраўное каралеўства яго ўпрывілеяванага палажэньня. Разам з гэтым сярэдняму ангельцу абрыдла „спаборніцтва збраеньня", якое мучае народы, выключае ўсякую магчымасьць сацыяльнага разьвіцьця і, у дадатак, вядзе проста да вайны. Вось чаму ангельцы бачаць адзіны выхад у Лізе Народаў і ў правільнасьці яе статуту — з усімі вынікаючымі адсюль забавязаньнямі, якімі цяжкімі яны-б ня былі. У Францыі не зьвярнулі належнай увагі на так званы „мірны рэфэрэндум", арганізаваны лёрдам Робэртам Сэсілем вясной с. г.: з 12 мільёнаў галасоў, 95 прац. выказаліся за Лігу Народаў, хаця, між іншым, тады яшчэ і ня было гутаркі аб возеры Цан, Італіі і аб вялікім індыйскім шляху.

Вынікі выбараў прадстаўляюцца Вікхэму Сьціду наступна:

Калі-б выбары адбыліся ў траўні, яны далі-б перамогу, бясумліўна, рабочай партыі: на гэта даволі ясна паказываюць вынікі некаторых частковых выбараў. Цяпер-жа можна амаль з пэўнасьцяй сказаць, што *пераможа нацыянальны ўрад*.

# Напруж. адносіны між Японіяй і Кітаем

Сярод кітайскіх нацыяналістаў узмацняецца анты-японскі рух на карысьць адкрытага выступленьня проціў Японіі.

Анты-японскія дэмонстрацыі, у каторых прыймае ўчасьце, галоўным чынам, кітайская моладзь, ня спыняюцца ня гледзячы на заклікі больш асьцярожных і ўмераных кітайскіх дзеячоў паўстрымацца ад нападаў на Японцаў. Учора на Нанкінскай вуліцы ў Шанхаі група дэмонстрантаў выбіла шыбы ў японскіх магазынах.

Заможныя кітайцы ўцякаюць з Шанхая ў глыб краю. Выкарыстоўваючы спрыяючыя абставіны, спэкулянты скупляюць па нізкім цэнам у ўцякаючых іх прадпрыемствы, зямлю і дамы.

**Учора ў Шанхайскі порт прыбылі два японскія дрэдноўты** (род ваенных параходаў).

У сувязі з гэтым, японскі ваенны аташэ палкоўнік Такахашы выступіў проціў распаўсюджваных вестак, быццам японцы намераны паўночныя правінцыі Кітаю абвесьціць незалежнай дзяржавай.

— Мы дамагаемся толькі аднаго — кажа аташэ — каб кітайскія ўлады рашуча парвалі з анты-японскай палітыкай. Ніякіх імкненьняў да тэрыторыяльных захопаў мы ня маем. Мы хочам дапамагчы эканамічнаму разьвіцьцю паўночнага Кітаю, але гэта зьяўляецца немагчымым, пакуль даходы паўночных правінцыяў будуць ісьці ў Нанкін. Мы выступаем таксама проціў нацыяналізацыі серабра ў Паўночным Кітаі.

Згодна з апублікаванымі паведамленьнямі „Рэнго", японскі пасол у Кітаі апублікаваў заяўленьне, у якім падчырківае, што калі кітайскія ўлады ня прымуць рашучых мераў, то стварыўшыяся абставіны дадуць цяжкія вынікі для кітайска-японскіх адносінаў.

Японскі консул у Шанхаі патрэбаваў ад паліцыі міжнароднай часьці гораду арышту вінавайцаў апошніх анты-японскіх выступленьняў, а таксама прыняцьця асобых мераў для абароны жыцьця і маемасьці японцаў, пражываючых у Шанхаі.

# Санкцыі супроць Італіі з 18 г. м.

Згодна з пастановай Лігі Нацыяў ад бліжайшага панядзелку, г. з. 18 гэтага месяца Польшча пачне стасаваць супроць Італіі, экспортныя і эканамічныя санкцыі З гэтага-ж дня ўваходзіць у сілу загад Міністэрства Фінансаў і Міністэрства Гандлю і Промыслу які забараняе ўдзяляць Італіі, крэдыты, вывазіць аружжа, розныя ваенныя матэр'ялы і т. п.

## Ліквідацыя „Торгсіну".

Савецкі ўрад пастанавіў з 1 лютага 1936 г. зьліквідаваць „Торгсін" і яго функцыі перадаць камісар'яту ўнутранага гандлю, а таксама запрапанаваць „Торгсіну" зараз-жа спыніць выдачу іменных разрахунковых кніжак па ўсялякім опэрацыям.



Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.